**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**Штотыднёвая газета**

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

41 (549) 14 кастрычніка 2010 года
Кошт **свабодны**

**АЎТАЗАПЧАСТКІ**
для аўтобусаў і легкавых аўтамабіляў
тэл.: 8 (029) 712-93-34
ЧТУП "СолидСтрой" УНП 390506108
магазін "Бегемот" на Леніна, 87
Ліц. №22150/0283624 выд. Глыбоцкім РВК

**Отделочные и строительные материалы**
котлы, двери, окна, душевые кабины, пластик, ламинат и др.
ЧТУП "СолидСтрой" УНП 390506108
магазін "Бегемот" на Леніна, 87
Ліц. №22150/0283624 выд. Глыбоцкім РВК

ЧТУП «ОД Стройс»
**Вокны і дзверы ПВХ**
шафы-купэ, жалюзі, сейфы
дзверы металічныя,
дзверы міжпакаёвыя
на Дзяржынскага, 29-А
УНП 390506774
тэл.: 2-65-66
Ліц. №22150/0283014, выд. 07.04.04 г. Глыбоцкім РВК

**Блокі г/с – 195000 м$^3$**
**Клей для г/с блокаў,**
**Душавыя кабіны,**
**Газавыя катлы,**
**Ламінат** (Германія),
Самарэзы, дзюбелі, цвікі,
свёрлы і іншы інструмент.
Магазін «Калейдаскоп», рынак «Верас»
**Знойдзеце танней? Мы прададзём яшчэ танней!**
тэл.: 8 (033) 307 37 30; 8 (029) 299 01 00
Пасв. №391054528, выд. 01.02.2010 г., выд. Глыбоцкім РВК
ПГУП ПЛГ «Будматэрыял» УНП 391054528

ЧТУП "НьюМаксЦентр", УНП 39050603
Торговый дом "Элис"
г. Глубокое, ул. Ленина, 36
**Широкий выбор товаров для дома:**
посуда, постельное бельё, изделия из пластмасс, мебель.
**Недорогая мягкая мебель:**
мягкие уголки до 1 млн. руб.,
диваны до 600 тыс. руб.
*Ждём Вас за покупками!*
**Тел.: 2-24-03**
Лиц. №22150/023189 выд. Глубокским РИК

Ювелірны магазін «Облік»
на вул. Кірава, 30/2
тэл/факс.: 2-70-62
**Пастаянна працуе майстэрня па рамонту, вырабу і рэстаўрацыі ювелірных вырабаў**
ІП Сцежкін С.В, УНП 390289159
Ліц. №02200/0064387 ад 22.07.06, выд. МінФін РБ

**КУХНІ, ШАФЫ-КУПЕ**
па індывідуальных праектах
*замер, дастаўка, усталяванне*
без % растэрміноўкі
Тэл.: 8 (029) 885-82-97 мтс
ІП Лісіца В.В. УНП 59022359 Ліц. 42360/0384985 ад 14.07.2008 г.

ПГУП "Аляхновіч і К$^0$" УНП 390506164
**УСЁ ДЛЯ ДАХАЎ**
металадахоўка, катэпал, праф/ліст,
водасцёкавыя сістэмы
затэлефануй: 2-69-49; 612-45-50; 718-00-59
на Маскоўскай, 79
Ліц. №22150/100218, выд. 31.05.04 Глыбоцкім РВК



Кастрычнік

**СКУТЭРЫ**
ГАРАНТЫЯ НА ЎСЮ ТЭХНІКУ
КРЭДЫТ
ПП «Хорс Мотарс», УНП 190849085; Ліц. 50000539993 да 12.03.2014 г. МГВК
на рынку «Верас»
МАПЕДЫ
МОТАКОСЫ
БЕНЗАПІЛЫ
РУХАВІКІ ДА МОТАБЛОКАЎ
ГЕНЕРАТАРЫ ад 0,8 да 5,5 квт
ЛОДАЧНЫЯ МАТОРЫ
ЗАПЧАСТКІ
і шмат іншага
Затэлефануй: 8(033) 320-82-02

ТАА "ОКНОГРАД", УНП 690639306
**ВОКНЫ**, балконныя рамы,
**ДЗВЕРЫ ПВХ** (профіль LG)
**Уласная вытворчасць:**
*замер, мантаж, дастаўка, выраб – 3-5 дзён.*
Гарантыйнае абслугоўванне.
Прадукцыя сертыфікаваная.
Тэл.: 813-63-66 (мтс); 326-30-12 (velcom)
Пасв. №690639306, выд. Мінскім АВК

УНП 690777837
ООО «СПК стройинвест", г. Минск
Генподрядная строительная организация приглашает на работу
**ПРОРАБА**
**(мастера) общестроительных работ,**
**а также: кровельщиков, штукатуров, камещиков**
*Приветствуются бригады!*
Контрактная форма найма. Полный социальный пакет. Обеспечение жильём.
**Объект: жилой дом в г. Глубокое**
*Заработная плата от 1,5 млн. руб.*
Контактное лицо: Владимир Егорович, тел.: 8(029) 619-51-11

ARTEC оконные системы
www.arteconline.com
Широкая сеть региональных представительств
ОКНА, ДВЕРИ, РАЗДВИЖНЫЕ БАЛКОННЫЕ РАМЫ
VEL: 8 (029) 372 43 04;
МТС: 8 (029) 571 91 76
УНП 690639306, ООО "Окнаград", 27.02.2008 г., Миноблисполком

ЧСУП «РЕАЛБИЛДИНГ»
LG
КАЧЕСТВО
ЗВУКОИЗОЛЯЦИЯ
НАДЕЖНОСТЬ
ДОЛГОВЕЧНОСТЬ
ЕВРОПЕЙСКОЕ КАЧЕСТВО
БЕСПЛАТНАЯ ДОСТАВКА
НИЗКИЕ ЦЕНЫ
ЗАМЕР БЕСПЛАТНО
8 (029) 5155251
ОКНА ПВХ
УНП 391473292

**БЛОКІ, ВАПНА, ЦЭГЛА, ЦЭМЕНТ**
*Усё для будаўніцтва і аддзелкі!*
у Глыбокім на Маскоўскай, 79
Тэл.: 2-69-49; 2-72-42; 8(029) 218-47-60(м); 8(044) 331-21-12(в)
ПГУП "Аляхновіч і К$^0$" УНП 390506164
Ліц. № 22150/100218, выд. 31.05.04, Глыбоцкім РВК

ІП Гузак Ч.І., УНП 391240256
**ДЗВЕРЫ**
Пастаўскі вытворчы мэблевы цэнтр
Вялікі выбар. Нарэзка шкла. Дастаўка – бясплатна.
*Тэрмін выканання для афарбаваных дзвярэй – 3-4 тыдні.*
Тэл.: 8 (02154) 4-38-94 (гп Шаркаўшчына); vel: 8 (029) 968-49-17

ІП Валынчук В.А., УНП № 500594599
**КУХНІ**
Кухонныя вугалкі, мяккая мэбля
ЗАМЕР. ДАСТАЎКА. УСТАЛЯВАННЕ
Тэлефон (029) 697-22-18
па Вашых памерах
Ліц. №42365/0296288, выд. 18.12.2006 г.

Вашы ОКНА плюс
**Шафы-купе**
**Вокны ПВХ**
**Дзверы ПВХ, металічныя і міжпакаёвыя**
найноўшыя энергазберагаючыя, 70 мм, 5-камерныя, супраціў цеплаперадачы = 1 м$^2$ С$^0$ (Вт). Па кошту стандартных.
Тавары ў крэдыт
*Выбірай для сябе лепшае!*
Балконныя рамы
Вароты секцыйныя
Ралеты, сейфы
Жалюзі: вертыкальныя і гарызантальныя
Карнізы аконныя
Камп'ютэрныя сталы
Ліц. № 22150/0283431 ад 06.06.2008 г., выд. Глыбоцкім РВК
на Леніна, 14/1; тэл.: 2-22-77; мтс: 308-42-00
на Маскоўскай, 17; тэл.: 2-21-28

**ЛІНОЛЕУМ ПАНЕЛІ ПВХ САЙДЫНГ**
**ДЫВАНОВЫЯ ПАКРЫЦЦІ**
**ЛАМІНАВАНЫЯ ПАДЛОГІ**
ІП Сініца С.К.; УНП №390144631;
УНП 391052313 ПГУП "ЛерВарСтройПлюс"

**Натяжные потолки**
Матовые
Сатин
Глянцевые
Металик
Перламутр
Галактика
Cli pso
Matt-Gold
Кварц
Шёлк
Облака
De'luxe M
Гарантия 10 лет. Скидки. Изготовление за 1-2 дня. Рассрочка платежа
8 (029) 716-46-16
ИП Макатун А.В., УНП 391052405

## Íàáû¢ ìîö óêàç ïðýç³äýíòà àá ïàêàðàíí³ ¢ âûïàäêó ôîòà- àáî â³äýàô³êñàöû³ ïåðàâûøýííÿ õóòêàñö³

Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН

**Набыў моц указ прэзідэнта, згодна з якім уладальнікаў транспартных сродкаў будуць караць у выпадку фота- або відэафіксацыі перавышэння хуткасці**

9 кастрычніка набыў моц указ прэзідэнта № 454 ад 3 верасня "Аб мерах, накіраваных на арганізацыю бяспекі дарожнага руху з выкарыстаннем спецыяльных тэхнічных сродкаў".

Згодна з указам, пры фіксацыі перавышэння хуткасці руху аўтамабіля спецыяльнымі тэхнічнымі сродкамі, якія працуюць у аўтаматычным рэжыме і маюць функцыі фота- і кіназдымкі, відэазапісу або сродкамі фота- і кіназдымкі, відэазапісу адміністрацыйнай адказнасці будзе падлягаць уласнік (уладальнік) аўтамабіля.

Указ таксама вызначае механізмы прыцягнення да адказнасці і апратэставання рашэння органа, які вядзе адміністрацыйны працэс аб прыцягненні да адказнасці.

Рэалізацыя ўказа пачнецца з аўтадарогі М1/Е30 Брэст — мяжа Расійскай Федэрацыі, абсталяванай стацыянарнымі тэхнічнымі сродкамі. У тэставым рэжыме яны працуюць ужо каля года.

Аднак ва ўпраўленні ДАІ МУС БелаПАН не змаглі адназначна пацвердзіць, што з 9 кастрычніка на галоўнай аўтадарозе краіны сродкі фіксацыі будуць пераведзены з тэставага ў рабочы рэжым і парушэнні хуткасных рэжымаў пачнуць рэальна фіксавацца камерамі.

Не змаглі ва УДАІ таксама растлумачыць, хто канкрэтна будзе эксплуатаваць тэхнічную сістэму, размешчаную на М1/Е30 і хто будзе друкаваць фотаздымкі. Ва ўсяляким выпадку, ДАІ гэтай справай займацца не будзе.

Варта адзначыць, што ва ўказе не вызначаны орган, адказны за яго непасрэднае выкананне. Прэзідэнт проста даручыў Савету міністраў на працягу трох месяцаў забяспечыць прывядзенне актаў заканадаўства ў адпаведнасць з указам і прыняць іншыя меры па яго рэалізацыі.

Нагадаем таксама, што ўрад Беларусі прыняў рашэнне заключыць інвестыцыйны дагавор з аўстрыйскай кампаніяй Avonside Holdings GmbH аб стварэнні і эксплуатацыі Адзінай сістэмы фотафіксацыі парушэнняў хуткаснага рэжыму на тэрыторыі краіны. Гэта замацавана пастановай урада № 1366 ад 22 верасня. На падпісанне інвестыцыйнага дагавора ўпаўнаважаны міністр унутраных спраў Анатоль Кулешоў і міністр транспарту і камунікацый Іван Шчэрба.

## Áåëàðóñû ìîãóöü çàáûöü ïðà âàëþòíûÿ êðýäûòû íàçà¢ñ¸äû

Зміцер ЗАЯЦ

**У адпаведнай пастанове Нацбанка гаворыцца, што забарона на выдачу грамадзянам крэдытаў у інвалюце падоўжыцца ды студзеня 2011 года. Аднак, як высветлілі Naviny.By, забарона на валютныя крэдыты будзе дзейнічаць у Беларусі і пасля Новага года.**

За захаванне забароны на выдачу валютных крэдытаў фізасобам выступае Нацыянальны банк.

У такога развіцця падзей будуць як плюсы, так і мінусы.

Плюс складаецца ў тым, што валютныя рызыкі крэдытаатрымальнікаў будуць мінімізаваны. Усім памятная гісторыя мінулага года, калі студзенская дэвальвацыя беларускага рубля прывяляа да падаражэння долара для насельніцтва. Ускладняў пагашэнне валютных крэдытаў насельніцтву і крызіс, які панаваў у Беларусі летась.

Дарэчы, Нацбанк Беларусі, аргументуючы летась забарону на выдачу валютных крэдытаў насельніцтву, таксама прыводзіў у якасці абгрунтавання неабходнасць зніжэння валютных рызык.

"Прымаючы да ўвагі як станоўчыя, так і адмоўныя бакі ўводзін абмежаванняў на выкарыстанне замежнай валюты пры крэдытаванні фізічных асоб, дадзеная норма носіць часовы характар, г.зн. будзе дзейнічаць да моманту стабілізацыі сітуацыі ў эканоміцы краіны", - падкрэслівалася ў афіцыйным каментарыі Нацбанка.

Сітуацыя, на фоне якой было прынята рашэнне аб забароне валютнага крэдытавання, паказвала, што валютныя рызкі крэдытаатрымальнікаў – гэта не адзіная прычына.І летась, і цяпер у Беларусі захоўваецца высокае адмоўнае сальда гандлёвага балансу. Перавышэнне імпарту над экспартам аказвала і аказвае сур'езны ціск на золатавалютныя рэзервы краіны. Таму забарона на валютнае крэдытаванне была выклікана ў тым ліку неабходнасцю памяншэння попыту на імпарт на ўнутраным рынку.

А вось насельніцтва адсутнасць валютных крэдытаў ужо адчула. Калі да 2009 гады мы самі маглі вырашаць, які крэдыт браць выгадней, валютны ці рублёвы, то зараз гэтай магчымасці няма.

### Áðàñëà¢ñê³ ðà¸í

## Äàæûâàöü âåê ó ïðûòóëêó

Станіслаў Раманчук

**Горкая прыкмета нашага часу – вялікая колькасць (ужо за сотню тысяч) у глыбінцы зусім адзінокіх і адзінока пражываючых людзей.** Імклiва старэе карэннае насельніцтва і ў Браслаўскім раёне, куды, праўда, з-за прыгожай прыроды сталі перасяляцца жыць у цёплы перыяд года жыхары вялікіх гарадоў. Сёлетняй восенню і для мясцовых пажылых людзей азёрнага краю з'явілася падстава для невялічкай радасці. У памяшканні былой Барунскай базавай школы адкрыўся напярэдадні халадоў пансіянат для кругласутачнага знаходжання старых людзей, пра якіх няма каму паклапаціцца на схіле жыцця. Тут іх забяспечылі цяплом, медыцынскім доглядам, каларыйным харчаваннем, годным пражыццём за большую частку іх пенсіі у якасці аплаты за паслугі. На Браслаўшчыне дагэтуль працаваў для такой катэгорыі пенсіянераў і дом-інтэрнат у райцэнтры на 105 месцаў. Адну з участковых бальніц раёна перапрафілявалі ў медустанову сястрынскага догляду. Напярэдадні халадоў адкрылі дадаткова яшчэ 5 ложкаў у адным з аддзяленняў райбальніцы. Паколькі патрэба ў іх вялікая, для нямоглых старых і ў Відзаўскай бальніцы адвялі ў палатах 7 сацыяльных ложкаў. Аднак жадаючых тут перажыць зіму яшчэ болей, схавацца ад адзіноцтва жадаюць 15 бабулек…

### Ïàñòà¢ñê³ ðà¸í

## Äîáðûÿ ïðûêìåòû âîñåí³

Кастусь Александровіч

**Дэмаграфічная сітуацыя дае аб сабе ведаць у глыбінцы, і толькі ў Пастаўскім раёне па гэтай прычыне прыйшлося закрыць 3 пачатковыя, 2 базавыя і спецшколу-інтэрнат у гарпасёлку Варапаева.**

Але ў сярэдзіне восені зноў адкрыўся ў мястэчку Груздава, што ў 18 км ад горада, дзіцячы сад. Аб дашкольніках у сем'ях працаўнікоў свайго сельгасфіліяла паклапаціўся калектыў аграбудпрадпрыемства “Рассвет пастаўскій”. За ўласныя сродкі бударганізацыя пабудавала прасторнае і ўтульнае памяшканне для садка, аснасціла яго ўсім неабходным для побыту дзетак. Дарэчы, цяпер у раёне стала 15 дзіцячых садкоў, у якіх атрымліваюць неабходнае выхаванне і падрыхтоўку да школы ўжо каля 1100 хлопчыкаў і дзяўчынак. Да дня пажылых людзей падрыхтавала гэта аграбудфірма, адна з лепшых у трэсце “Полацксельбуд”, таксама важкі падарунак. Усім ветэранам-будаўнікам са стажам працы 25 гадоў штомесяц пажыццёва будзе выплочвацца даплата ў памеры 1,5 базавых велічынь. За год прыбавіцца больш за 600 тысяч рублёў, якія, безумоўна, спатрэбіцца пенсіянерам. Сваіх ветэранаў бударганізацыя памятае, пра іх выйшла нават кніга “След на зямлі”, былыя будаўнікі атрымалі прадуктовыя наборы. Ім выплочваюць матэрыяльную дапамогу, уручаюць падарункі да прафесійнага свята.

### Ðàñîíñê³ ðà¸í

## Àääçÿ÷ûë³ çà ñòàðàííå

Кастусь Александровіч

**З неверагодным размахам для малога гарпасёлка з насельніцвам крыху больш за 5 тысяч чалавек правялі днямі Расоны абласное свята працаўнікоў вёскі “Дажынкі-2010”.**

Сапраўднымі трыўмфатарамі выглядалі на ім і прадстаўнікі дэлегацыі з Глыбоцкага раёна, якія і выдзяляліся ад астатніх у калоне пераможцаў сваімі блакітна-жоўтымі кашне. Прыйшлося ўзняцца на святочна ўбраную сцэну за дыпломам пераможцы сярод раёнаў па вытворчасці лёну старшыні райвыканкама Алегу Морхату. Даволі працяглай па часе атрымалася і цырымонія ўзнагаро-джання лепшых хлебаробаў вобласці, якія асабліва вызначыліся на ўборцы ўраджаю падчас сёлетняга надзвычай спякотнага жніва. Як лепшы камбайнер, з рук кіраўніка Віцебскай вобласці А. Косінца атрымаў заслужаны падарунак старшы камбайнер сельгасфіліяла “Ломашы-Агра” Антон Гаравец (якраз напярэдаднісвайго юбілею). Цікава, што ў сваёй гаспадарцы ён працуе вадзіцелем, але , перайшоўшы на час пільніцы на камбайн, першым у рэгіёне змог намалаціць тысячу тон збожжа. Тады, летам, прама ў полі павіншавалі яго з працоўнай перамогай, уручылі каштоўны падарунак, а на свяце ўрад жаю ў СВК - яшчэ і халадзільнік. З Расон дамоў павёз Антон Пятровіч пісьмо-падзяку і прэмію 1,5 млн. рублёў на экіпаж. А яшчэ каштоўным прызам – тэлевізарам “Віцязь” навейшага пакалення– ўзнагародзілі і фермера Аляксандра Шура, пераможцу вобласці сярод фермерскіх гаспадарак.

### Íàäâîð'å ¢ Ãëûáîêàì

www.rp5.ru

| | чацвер14.10.10 | | | | пятн. 15.10.10 | | | | сб. 16.10.10 | | | | нядз. 17.10.10 | | | | 18.10.10 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °C | 0 | 0 | +8 | +3 | +1 | -2 | +6 | -1 | -1 | -2 | +6 | +1 | +1 | +1 | +8 | +3 | +2 | +1 | +7 |
| Ціск, мм | 745 | 744 | 742 | 737 | 737 | 740 | 742 | 743 | 744 | 743 | 743 | 743 | 743 | 744 | 745 | 746 | 748 | 749 | 751 |
| Вільготнасць, % | 91 | 98 | 47 | 91 | 88 | 95 | 44 | 78 | 77 | 82 | 56 | 92 | 96 | 100 | 83 | 95 | 97 | 100 | 78 |
| Вецер м/сек | З 5 | З 4 | Ю-З 6 | Ю-З 7 | С-З 6 | С-З 6 | С-З 6 | Ю-З 1 | Ю 4 | Ю 4 | Ю-В 4 | Ю-В 4 | Ю-В 2 | В 2 | В 1 | В 2 | Ю 1 | С-З 2 | С 3 |
| | | 15:17 | 22:46 | | | 15:38 | 00:03 | | | 15:53 | 01:19 | | | 16:06 | 02:32 | | 16:17 | 02:31 | |

Запрашаем на пейнтбол!
8 (029) 719-49-45
PAINTBALL
ІП Машкоў А.А.; УНП 300146493

## Äçåíü çà äí¸ì

**Толькі ў 2014 годзе пры ўмове ўстойлівай працы айчыннай эканомікі, як пацвердзілі ва ўрадзе краіны, Беларусь зможа выйсці на станоўчае сальда знешняга гандлю. У краіне запрацавалі каля сотні аўтаматычных камер ДАІ відэафіксацыі хуткасці руху транспартных сродкаў, а з новага года пачнуць выдаваць вадзіцелям новыя пасведчанні міжнароднага ўзроўню. Дзеючы лідар А. Лукашэнка прызнаўся, што хацеў бы, каб за яго прагаласавала канстытуцыйная большасць, дзесьці 70-75 % выбаршчыкаў. Толькі 17 прадстаўнікоў апазіцыі уключаны ў тэрытарыяльныя выбарчыя камісіі, дзе ўсяго было 2 тысячы месцаў.**

## Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**Францыя.** Кіраўнік Еўрапарламента Ежы Бузек заявіў, што сумленныя і дэмакратычныя прэзідэнцкія выбары вырашаць будучы кірунак добрых адносін Еўрасаюза з Беларуссю.

**Расія.** Адносіны з цяперашнім кіраўніцтвам Беларусі, як заявіла прэс-сакратар прэзідэнта РФ Наталля Цімакова, зайшлі ў тупік і ўжо не вернуцца да сваіх ранейшых пазіцый.

**КНДР.** Генсек ЦК ППК Кім Чэн Ір прысвоіў генеральскае званне сваёй малодшай сястры Кім Ген Хі, зрабіў генералам і малодшага сына Кім Чон Ына, свайго пераемніка.

**ЗША.** Дзяржд эпартамент і ФБР папярэдзілі амерыканцаў аб пагрозе тэрактаў у краінах Заходняй Еўропы з боку ісламісцкіх баевікоў "Аль-Каіды" да 11 студзеня 2011 года.

**Германія.** Праз 92 гады пасля заканчэння І-й Сусветнай вайны краіна выплаціла апошні транш 59,5 млн. фунтаў рэпарацый за ўрон краінам-саюзнікам падчас баявых дзеянняў.

**Венгрыя.** У выніку буйнейшай экалагічнай катастрофы на захадзе краіны загінулі 4, прапалі без звестак 7 і атрымалі апёкі больш за 100 чалавек, вылілася 700 тыс. куб. атрутны.

**Венесуэла.** Прэзідэнт Уга Чавес аб'явіў аб падрыхтоўцы да запуску ядзернай праграмы краіны быццам ў мірных мэтах, гэта рашэнне ўстрывожыла многіх ў свеце, асабліва ЗША.

**Іспанія.** З мэтай выхаду з крызіса ўрад краіны павысіў падаткі для тых, хто зарабляе больш за 120 тыс. EUR у год і знізіў асноўныя расходы ўсіх дзяржустаноў на 16 %.

**Польшча.** Глава дзяржкамісіі Эдмунд Кліх прызнаў, што большая частка віны за жудасную авіякатастрофу пад Смаленскам ляжыць на польскіх пілотах.

**Казахстан.** Услед за Расіяй дэлегацыя краіны паспяхова правяла ў Вашынгтоне перамовы высокага ўзроўню аб уступленні ў СГА 153 краін свету. Беларусь з тройкі істотна адстала.

**Англія.** Новы сусветны рэкорд устанавіў брытанскі кіроўца, які на аўтамабілі Фольксваген Пассат без дазапраўкі праехаў 2,5 тыс. км з Лондана да іспанскага горада Малага за 34 г.

**Германія.** У сталіцы краіны Берліне побач з былой Берлінскай сцяной ўвекавечылі ў бронзе Гарбачова і Буша, якія ўнеслі важкі ўклад у мірнае аб'яднанне Германіі.

**Чэхія.** Удалае выступленне жаночай зборнай Беларусі стала тут галоўнай сенсацыяй чэмпіянату свету па баскетболе. Беларускі з першай спробы занялі высокае 4-е месца.

**Расія.** У пачатку кастрычніка па ўсёй РФ зачынілі ўсе вулічныя абменныя пункты валют. Такія аперацыі робяць толькі ў 24,5 тысяч банкаў альбо ў іх касах.

**Украіна.** Пад Кіевам устанавілі рэкорд краіны: зварылі ў адным чане 5 тон баршчу і накармілі ім бясплатна 10 тысяч гасцей, на смачную страву пайшло толькі солі 25 кг.

## Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Мінск.** У ходзе анлайн-канферэнцыі глава ЦВК РБ Л. Ярмошына паведаміла, што ў месяц зарабляе чыстымі 3,6 млн. рублёў і падумвае ўжо аб выхадзе ў адстаўку зімой 2012 года.

**Зельва.** Будаўніцтва тут вугальнай электрастанцыі пры ўдзеле польскага капіталу стала пад пытанне, бо Мінпрыроды Беларусі выставіла 11 сваіх экалагічных патрабаванняў.

**Ліда.** Штрафам, дэпартацыяй і забаронай уязджаць у РБ 3 гады завяршылася для 4-ох літоўцаў спроба нелегальна купіць гарэлкі на нашай тэрыторыі пры нарыхтоўцы дроў.

**Мінск.** Намеснік міністра працы і сацабароны Беларусі В. Каралёва не выключыла трэцяга па ліку да канца года павышэння працоўных пенсій для больш за 2,5 млн. пенсіянераў.

**Гомель.** На мясцовым аўтарамонтным заводзе пачалі выпуск новых турыстычных аўтобусаў "Радзіміч" класа "Еўра-4" з кухняй у салоне і 31-м месцам для пасажыраў.

**Мінск.** Для краіны пакуль цяжка рэалізаваць новае павышэнне заробкаў бюджэтнікаў, прызнаў міністр фінансаў Беларусі А. Харкавец.

**Гродна.** Савет Рэспублікі датэрмінова спыніў паўнамоцтвы Аркадзя Карпуця, экс-старшыні абласнога дэпутатаў, асуджанага на 2 гады за спробу дачы буйнога хабару.

**Мінск.** Усе рэктары мінскіх ВНУ адмовіліся адначыць на вучобу актывіста маладзёжнага руху Ф. Вячорку. Яго, выдатніка, адлічылі з БДУ пасля арышту на 15 сутак.

**Гомель.** На плошчы Паўстання прайшло абласное свята "Мяса-малочная краіна" па прапагандзе здаровага ладу жыцця. На ім цыгарэты мянялі на малочныя прадукты.

**Мінск.** Былы старшыня Канстытуцыйнага Суда РБ В. Ціхіня заявіў, што краіне патрэбны капітальныя змены існуючага заканадаўства, каб наша дзяржава стала прававой.

**Магілёў.** У падатковых інспекцыях стварылі камісіі па рабоце са стратнымі арганізацыямі і фірмамі, якіх у вобласці 10,7 тысяч. Агульная сума іх даўгоў больш за1,3 трлн. рублёў.

**Мсціслаўль.** У адроджаным Пустынскім манастыры прайшла сустрэча выпускнікоў і супрацоўнікаў былога дзетдома, які існаваў тут за савецкім часам да закрыцця ў 1978 г.

**Мінск.** У аддаленым мікраараёне Шчомысліца за МКАД у 2011 годзе пачнуць узводзіць Нацыянальны футбольны стадыён на 30 тыс. месц і выставачны цэнтр па суседству.

**Баранавічы.** З-за падпалу ледзь не згарэў ангар з тэхнікай на мехдвары СВК "За мір", 6 пажарных машын выратавалі большую частку маёмасці, страты склалі 15 млн. рублёў.

**Гомель.** Як і чакалася, вельмі моцна правёў сезон мясцовы ФК "Гомель", у вышэйшую лігу чэмпіянату Беларусі па футболе ён заваяваў пуцёўку за 7 тураў да канца першынства.

## Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

**Віцебск.** Новым памочнікам кіраўніка краіны – інспектарам па Віцебскай вобласці – прызначылі М. Дамашкевіча, які раней узначальваў Міншчыну, дзе было шмат прыпісак.

**Расоны.** Напярэдадні зімы тут, у філіяле керамічнага завода, на складах заставалася яшчэ 4,5 млн. штук чырвонай цэглы, калектыў са 120 чалавек цэлы год прастойваў.

**Глыбокае.** Каля 4-х гадзін ночы на станцы Зябкі грузавы цягнік збіў двух кароў мясцовага філіяла аграсервіса, цеплавоз быў пашкоджаны і затрымаўся на 10 хвілін.

**Віцебск.** Аб'ёмы прамысловай вытворчасці ў вобласці за 9 месяцаў правальна скараціліся да 92,3 % да узроўню 2009 года, у АПК – 99,7 %, сярэдняя зарплата склала толькі 330 $.

**Браслаў.** Райцэнтру перадалі ад Расон права правядзення ў 2011 годзе абласнога фестываля- кірмаша працаўнікоў вёскі "Дажынкі", сёлета расонцам перапала 20 млрд. руб.

**Орша.** Сур'ёзныя траўмы атрымала 24-гадовая беспрацоўная гараджанка, калі няўдала саскочыла на падпітку з вагона грузавога цягніка, калі бясплатна ехала на ім дамоў.

**Наваполацк.** Пасла Францыі ў РБ Мішэля Рэнеры прыемна здзівіў тут ўзровень валодання французскай мовай студэнтамі дзяржуніверсітэта і навучэнцамі мясцовай гімназіі.

**Віцебск.** Кіраўнік вобласці А. Косінец запатрабаваў на зіму у кожным раёне адкрыць у бальніцах яшчэ па 40-50 ложкаў для догляду адзінокіх старых і нямоглых людзей.

**Лепель.** Мясцовую гімназію ў ліку пяці па вобласці пачалі правяраць спецыялісты Міністэрства адукацыі РБ на якасць ведаў вучняў і на адпаведнасць сваіму статусу.

**Віцебск.** Дзякуючы крызісу і цяжкасцям са збытам прадукцыі за апошнія 1,5 гады гаспадаркі вобласці атрымалі 7 тысяч адзінак новай тэхнікі, энерганасычаных трактароў.

**Талачын.** На гарачых слядах міліцыя знайшла і затрымала 50-гадовага злодзея, які ноччу абрабаваў сельмаг у вёсцы Серкавіцы і забраў адтуль гарэлку, цыгарэты і прадукты.

**Віцебск.** Вечарам у цэнтры горада загарэўся закінуты Дом культуры побач з Дзвіной з-за неасцярожнасці з агнём трох бяздомных. Пажарныя выратавалі іх і патушылі пажар.

**Глыбокае.** Па выніках атэстацыі рабочых месц у раёне, як адзначалася на сесіі райсавета, на 43 прадпрыемствах трэць іх з 9,4 тысяч са шкоднымі і небяспечнымі ўмовамі працы.

**Расоны.** Да радасці моладзі райцэнтра, пасля рэканструкцыі на першым паверсе рэстарана "Расінка" адкрыўся сучасны бар, поўнасцю ў гарпасёлку абнавілі асвятленне вуліц.

**Дуброўна.** Райпракуратура затрымала 28-гадовага жыхара раёна, які падчас выпіўкі жорстка забіў свайго знаёмага, труп якога потым вывез на роварах і кінуў у раку Днепр.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Лічба нумара

**118000**

– да такіх памераў, пачынаючы з 1 лістапада, павысіцца ў Беларусі ( адразу на 31 %) тарыфная стаўка першага разраду. Такім чынам, кіраўніцтва краіны і беларускі ўрад ажыццявілі канкрэтныя захады па вырашэнні самай актуальнай задачы перад выбарамі – давядзення сярэдніх заробкаў суайчыннікаў у канцы года да 500 долараў. Запланавана таксама істотнае павышэнне мінімальнай заработнай платы да 400 тысяч рублёў у месяц.

Нават цяжка сказаць, ці варта радавацца з гэтай прыемнай нагоды, бо ніхто з нас не адмовіцца ад дадатковых грошай. Аднак насцярожвае, што ва ўказе аб росце мінімалкі названы толькі два месяцы – лістапад і снежань. Масла ў агонь падліло нядаўняе выступленне ў парламенце беларускага міністра фінансаў Андрэя Харкаўца, які шчыра прызнаўся, што ў 2011 годзе будзе "калассальна складана" захаваць рэальныя заробкі, якіх краіна дасягне ў канцы гэтага года.

І гэта сапраўды нялёгкая задача для фінансістаў, бо мінімальная зарплата з пачатку года ўзрасце яшчэ больш, амаль на 55 %, а важкіх падстаў для такога рыўка няма. Да прыкладу, у нашай Віцебскай вобласці, дзе даводзіліся грандыёзныя заданні дабіцца росту прамысловай вытворчасці на 25 %. На практыцы выйшаў з гэтага канфуз, бо ў студзені-верасні дапусцілі нават яе падзенне, дасягнулі толькі 92,3 % ад адпаведных паказчыкаў мінулага года.

У сельскай гаспадарцы было загадана на трэць нарасціць аб'ёмы вытворчасці з палёў і ферм, але не выйшлі нават на ўзровень 2009 года. Па эфектыўнасці дзейнасці АПК Віцебшчына апошняя ў краіне, што не перашкодзіла правесці ў Расонах пампезныя абласныя "Дажынкі". Невыпадкова і сярэдняя зарплата працоўных тут на адным з апошніх месц у Беларусі і зафіксавана на ўзроўні 330 долараў. Так што сітуацыя ў айчыннай эканоміцы па-ранейшаму трывожная, да прарыва і ўстойлівага росту яшчэ далёка, як і да станоўчага знешнегандлёвага балансу.

Тым не менш, прынятыя ўрадам захады дазволяць у лістападзе павысіць заробкі бюджэтнікам дзесьці на 135 тысяч рублёў. Адначасова прымусяць і прыватныя структуры, дзе плоцяць меней, з дапамогай адміністрацыйнага рэсурсу і пагроз пайсці на павышэнне зарплат да новага мінімальнага ўзроўню. Аб такіх захадах гаварылася некалькі гадоў назад, агучваліся кіраўніцтвам Беларусі планы выйсці нават на ўзровень 700 долараў зарплат беларусам з улікам высокага узроўню цэн, каб можна было годна жыць.

У выніку да абяцаных 500 дырэктыўных долараў краіна падыдзе амаль ушчыльную, калі курс валют да беларускага рубля захаваецца. Раней у нас, успомніце, нават пра наступіўшы крызіс не гаварылі. Аднак цяпер ужо будуць на гэты фактар спасылацца, як і нечакана праведзеную дэвальвацыю айчыннай валюты прыводзіць у якасці аб'ектыўных прычын існуючых цяжкасцей і не такога росту даходаў суайчыннікаў, як хацелася б. Зрэшты, беларускі лідар запэўнівае, што такімі крокамі ён зусім не купляе свой электарат, паколькі апошнім часам зарплата ў РБ павышалася ўжо 19 разоў ( пачынаючы з 2000 года).

Аднак у апошняй пяцігодцы было 8 такіх павышэнняў, з якіх 3 сёлета, а аднойчы ўзровень заробкаў нават панізілі пасля патрабаванняў фундатараў з МВФ. Але такіх рэзкіх рыўкоў з велічынёй 1-га разраду раней не было. У выніку маем прапорцыю росту эканомікі ў гэтым годзе 6-7 % пра рост зарплаты на 46 %. У такой сітуацыі ўжо пасля новага года беларуская валюта пройдзе чарговы экзамен на трываласць. Бліжэйшчы час пакажа, як дадатковыя незаробленыя даходы пасля выбараў могуць выклікаць новы рост цэн , і не дай Бог, новы абвал рубля.

А наперадзе яшчэ чакае краіну далейшае павышэнне цэн на газ і неабходнасць выплат па раней атрыманых крэдытах, у лютым – ужо першых працэнтаў па еўрабондах. Як выхад, краіне ёсць яшчэ шмат што прадаць. Пакуль жа ўзгадаем, што папярэднія прэзідэнцкія выбары суправаджаліся павелічэннем попыту насельніцтва на замежную валюту і даходы выбаршчыкаў раслі. Зараз жа з прытокам замежнай валюты ў Беларусь ёсць вядомыя праблемы. Ад знешняга гандлю будзе залежыць, як далей мы будзем жыць.

*У працяг тэмы, распачатай у «ВГ» №27 (535), № 28 (536), №30 (538) 29, №31 (539), № 32 (540) , № 34 (542), № 35 (543), №36 (544), 38 (546), 39 (547), 40 (548) за 2010 год.*

# Ігнапаль
## і яго ваколіцы

■ **Генадзь Комель**


**Генерал Уладзіслаў Андэрс**

“Тут яны, тут!” – гаворыць бабулька. Могілкі маюць дагледжаны выгляд, ляжаць вянкі кветак, стаяць драўляныя крыжы.

“Бабушка Яня” – спрашываю я – «Это Вы такой порядок навели здесь?» – «Ага, дзетка, я. Хто вяночак выкініць, а я пагляжу – нічога і тут пакладу. Я крэсцік тут таксама паставіла. Усё ж лепей, чым проста так. Іх бы затапталі, калі б ніхто не глядзеў» – кажа бабка Яня.

Перакладчыца ціхенька перакладае нашу размову палкоўніку Санціні. “Спросите, пожалуйста, что эта женщина желает, и мы всё сделаем для неё”. “А нічога мне не трэба. Толькі б на тым свеце сустрэцца з маімі італьянскімі салдацікамі” А даглядала ж бабуля Яня 54 годзікі гэтыя могілкі, як і могілкі сваіх сыночкаў. Гэта ўрывак з артыкула “Італьянцы ў Глыбокім” Тацціны Дзмітрыеўны Сауліч, былога намесніка старшыні Глыбоцкага райвыканкама, былога старшыні камісіі па стварэнні кнігі “Памяць” Глыбоцкага раёна.

У мяне назапасіўся цікавы матэрыял па гэтай тэме. Але я яго распачну толькі пасля матэрыялу аб Монтэ-Касіна і матэрыялаў аб Берлінгу. Прабачце, але ж так я паабяцаў у папярэднім артыкуле. Буду кіравацца кнігай **“Беларусы ў бітве за Монтэ-Касіна”**, Мінск: Кнігазбор, 2006 і ўжо згаданай кнігай Івана Данілава **“Неудобная история”** і некаторымі архіўнымі дакументамі.

### “Макі”

*Міхась Кавыль, 1953 г.*

Можа сэрцу мне даць адпачынак
На аблоні суцішных вятроў?
Макі, макі на Монтэ-Касіна
Беларуская жывіць кроў.
Хай квітнеюць на вояў магілах,
Мне не шкода, люблю я кветы,
Але бачу – арол белакрылы
Па-над макамі ў небе застыў.
Беларусаў ён душы вартуе,
Каб да Бога са скаргай не йшлі
Што за справу не тую, святую,
За чужую палеглі ў зямлі.
Не, я сэрцу не дам адпачынак
На аблоні суцішных вятроў
Макі, макі на Монтэ-Касіна
Беларуская жывіць кроў.

Міхась Кавыль (сапр. Язэп Лешчанка) нарадзіўся 1.11.1915 г. ў вёсцы Пакрашава Слуцкага раёна. Пасля сямігодкі паступіў у Мінскі педтэхнікум. Удзельнічаў у гуртку “Саюз ваяўнічых бязбожнікаў”, які быў створаны ў пачатку 30-х гадоў. Сябры гуртка насілі значок “СВБ”. 23 лютага 1933 года Кавыль арыштаваны па справе: “Контрреволюционная деятельность в СВБ – (“Саюзе Вызвалення Беларусі”)”. Цудам быў вызвалены з лагера “Сядонстрой” (Далёкі Ўсход). Застаўся працаваць у Расіі. У дакументах было пазначана, што быў асуджаны па 74 артыкуле Крымінальнага кодэкса, што азначала ў БССР – конрррэвалюцыянер, а ў РСФСР – хуліган.

Вы звярнулі хоць раз увагу, як называюцца ваенныя аперацыі ў арміях розных дзяржаў. Аперацыя Чырвонай Арміі па вызваленні Беларусі падчас Вялікай Айчыннай вайны – “Баграціён” – урачыста, з павагай да гісторыі Вялікай Расіі. Аперацыя ж па зачыстцы ад партызанаў тылоў нямецкай арміі – здзекліва і пагардліва “Вясенняя залева”.

### Аперацыя па вызваленні Монтэ-Касіна.

“Хто па складу думак той афіцэр штабу арміі Андэрса, які даў аперацыі назоў? Гэта ж беларуска-польскі паэт-філосаф па духу выхавання, выхаванец па духу генерала Дамброўскага, які ў выгнанні у Італіі пасля паўстання Касцюшкі стварыў польскія легіёны і ваяваў там за вызваленне Італіі і сваё вяртанне ў Польшчу мог назваць аперацыю пад Монтэ-Касіна – “Крык дзікіх гусей”. Ды не проста крык, а гэнкер, як называе Пётр Сыч у сваёй маленькай аповесці “Смерць і салаўі”. З якім задавальненнем я перачытваў некалькі разоў гэтае апавяданне, што раю і Вам, дарагі чытач. Дык вось, па словах Пятра Сыча: “Гэнкер – гэта крык гусей, якія вяртаюцца з выраю да сваіх гнёздаў – гімн вяртання на Радзіму”.

Для лепшай арыентацыі у прасторы й часе я хачу напомніць, што высадка саюзнікаў на Сыцыліі адбылася падчас Курскай бітвы. Як вынік высадкі саюзных войскаў быў арышт Мусаліні (27.07. 1943 года) і выхад Італіі з вайны, а Гітлера змусіла зняць войскі з іншых франтоў і ўвесці ў Паўночную Італію і спешным парадкам распачаць мацаваць абарончую лінію. На прарыў гэтай лініі спатрэбілася 4 месяцы несупынных атак.

Аперацыя “Булыжнік” (22.01.1944) 36-й амерыканскай дывізіі скончылася стратай 1050 чалавек забітымі і параненымі.

Аперацыя “Мсціўца” (15.02.44) таксама скончылася паразай.

Аперацыя “Чорт” (15. 03.44) мела тыя ж самыя вынікі.

23 сакавіка 1944 года было прапанавана Уладзіславу Андэрсу (і ён пагадзіўся) штурмаваць ключавы адрэзак абароны немцаў пад Монтэ-Касіна. Да гэтага часу страты заходніх злучэнняў войскаў склалі 52 000 чалавек, у тым ліку 8 340 забітымі.

Аперацыя “Крык дзікіх гусей” распачалася 11 траўня 1944 года. Але праз суткі быў зроблены адыход, і толькі у наступнай атацы 18 траўня на руінах бернардынскага кляштара падпаручык Казімер Гурскі ўзняў польскі сцяг, а . Уладзіслаў Андэрс праз гадзіну загадаў узняць ангельскі сцяг.

За гэтыя баі 80 беларусаў былі ўзнагароджаны Крыжам змагарных, 45 чалавек сярэбраным Крыжам заслугаў з мячамі і 7 чалавек – такім жа залатым Крыжам.

Страты арміі Андэрса – 4 075 чалавек, у тым ліку 860 загінула, 2 822 параненых і 97 чалавек прапала без звестак.

Уступіць першымі андэрсанаўцам ў Рым амерыканскі генерал Кларк не дазволіў.

15 сакавіка 1945 года адбылося адкрыццё параду ля кляштара ў Монтэ-Касіна. Прысутнічалі пасьлы США, Англіі, СССР, але прадстаўнікоў Польшы там не было.

Могілкі там будавалі самі ўдзельнікі баёў, якія 1.09.1945 года былі архітэктурна закончаны. Там пахаваныя 1072 жаўнеры арміі генерала Андэрса. Сам генерал памёр у Лондане ў 1970 годзе і згодна патрабаванню памерлага пахаваны ў цэнтры могілак сумесна са сваімі жаўнерамі.

Да верасня 1946 года корпус нёс вартавую службу ў Італіі, а пасля быў перакінуты ў Англію, дзе адбыўся павольны працэс дэмабілізацыі.

Засталіся ў Вялікабрытаніі 90 тысяч, у Францыі – 22 тысячы, у Канадзе – 7 000, у Бельгіі – 7 500, у Лацінскай Амерыцы – 7 500 чалавек. 890 чалавек дэпартаваны ў Сібір, у тым ліку 285 узнагароджаных памятным Крыжам Монтэ-Касіна. У 1993 годзе жаўнеры Андэрса атрымалі статус удзельніка Вялікай Айчыннай вайны. Праўда, да той пары ў Беларусі засталося 12 удзельнікаў бітвы пад Монтэ-Касіна. На ўрачыстасці 60-годдзя бітвы пад Монтэ-Касіна не прыехаў ні адзін беларус.

Спіс беларусаў, пахаваных на могілках Монтэ-Касіна.

1. **Балай Павел,** нарадзіўся 2.07.1916г. Косаўшчына (Пастаўшчына).
2. **Басакаў Афанасій** (03.08.1911 г. Захвашчаўка Браслаўскага павета).
3. **Букацін Сымон** (15.03.1915г. Варонка Шаркоўшчынскага павета).
4. **Дземідовіч Арсен** (1913 г. Баяры Дзесенскага павета).
5. **Дубовік Аляксандр** (07.04.1917г. Навасёлкі, Пастаўшчына).
6. **Зарэцкі Юстын** (01.03.1911г. Чараўкі, Пастаўшчына).
7. **Кавалеўскі Казімер** (20.10.1912 г. Зверблі Браслаўскага павета).
8. **Кажухоўскі Баляслаў** (06.08.1924 г. Узла, Пастаўшчына).
9. **Казакевіч Казімер** (04.02.1908 г. Ворвы, Пастаўшчына).
10. **Камінскі Рычард** (04.02.1924г. Куропаль, Пастаўшчына).
11. **Крупка Мечыслаў** (28.06.1914г. Баравы Браслаўскага павета).
12. **Кулак Іван** (15.12.1910г. Стахоўцы, Пастаўшчына).
13. **Лагічонак Эдуард** (01.10.1913г. Масан, Пастаўшчына).
14. **Лянчэўскі-Саматый Станіслаў** (18.06.1915г. Малышкі, Пастаўшчына).
15. **Марковіч Язэп** (15.03.1010г. Гарані Браслаўскага павета).
16. **Мартуль Станіслаў** (01.01.1927г. Паўловічы, Дзісенскі павет).
17. **Мацяс Аляксандр** (12.08. 1913 г. Гажа, Дзісенскі павет).
18. **Міхалеўскі Лявон** (20.02.1905 г. Сакалец, Браслаўшчына).
19. **Мушко Пётр** (30.05.1019г. Мышкі, Дунілавічы).
20. **Мышко Віктар** (25.12.1908г. Шміткі, Дзісенскі павет).
21. **Навіцкі Лёнгін** (15.04.1910г. Гулі, Пастаўшчына).
22. **Піртан Антон** (04.07.1915г. Плюсы, Браслаўшчына).
23. **Пяткевіч Вацлаў** (20.05.1920г. Салавіха, Пастаўшчына).
24. **Рамза Хвёдар** (15.06.1910г. Барсукі, Браслаўшчына).
25. **Юран Сцяпан** (02.10.1908г. Думарачкі, Браслаўшчына).


**Могілкі ля Монтэ-Касіна. На дальнім плане, на ўзвышшы, сярэднявечны кляштар святога Бенедыкта.**

### Камандзір Польскага войска ў СССР.

Падчас хрушчоўскай перабудовы ўзброеных сіл СССР на чыгуначнай станцыі Белая (пасёлак Тайтурка), што за 80 км недаезда да Іркуцка з боку Масквы, утварылася недарэчная сітуацыя – 32 старшыны па-за штатам.

Людзі з цьмянай будучыняй, без працы і абавязкаў, як выказаўся калісьці маршал Ракасоўскі аб сваім лёсе, – “Людзі паміж небам і зямлёй, не палякі і не рускія”.

Рэут, Весялоў і Зыкаў зніклі з вайсковай часці (прозвішчы сапраўдныя). Шукаюць суткі. Знайшлі. Зыкаў выкарыстаў свае яшчэ не зліквідаваныя паўнамоцтвы старшыні, выгнаў салдата з кабіны і цягае бярвэнні. Рэут і Весялоў ручной пілой, так бы мовіць – “Дружбай-2”, піляць лістоўніцы ды піхты.

Нешта падобнае атрымалася ў Савецкім Саюзе пасля 17 верасня 1939 г.

Вось тут і ўцяміў Лаўрэнцій Паўлавіч, што ўсю гэтую масу палячкоў неабходна выводзіць з узвешанага становішча, бо калі кожны пачне займацца сваёй любімай справай, то будзе хаос у Гулагу, а гэта бог яго ведае да чаго прывядзе.

Вось і паслухайце, што ён цікавае прапанаваў. 20.11.1940г. Берыя накіраваў Сталіну пісьмо, дзе прапанаваў стварыць польскую дывізію пад камандай Берлінга. Сталін палічыў, што гэта будзе правакацыя супраць немцаў таму, што хоць было захавана ўсяго 3 працэнты польскіх ваеннапалонных, але ж гэта адзін генерал, 8 палкоўнікаў, 16 падпалкоўнікаў, 9 маёраў, 18 капітанаў, усяго 400 чалавек.

*Працяг будзе*

**Кліменцій Кожан,**
*м. Германавічы.*

## Нашы землякі

# Генадзь Цітовіч

### Да 100-годдзя з дня нараджэння

**Нядаўна споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння Генадзя Іванавіча Цітовіча, вядомага беларускага музыказнаўцы, дзеяча харавога мастацтва, дырыжора, народнага артыста БССР (1955), СССР (1968), этнографа.**

Яго дзяцінства і юнацтва цесна звязаны з засценкам Рэчкі на Дзісеншчыне (цяпер – Шаркоўшчынскі раён). Знайсці гэтую мясціну было нялёгка. Аб ёй у кнізе Дзмітрыя Жураўлёва "Генадзь Цітовіч" расказваецца: "Чатыры невялікія хаціны хаваліся ў густым лесе, а дрыгвяністыя балоты, што абкружалі іх з усіх бакоў, надзейна ахоўвалі засценак ад цікаўных. Здавалася, што ніводзін чалавек не пайшоў бы сюды жыць па добрай волі – настолькі глухім і няўтульным здаваўся гэты забыты Богам кут, які невядома чаму называўся Рэчкамі, хоць сапраўдных рэчак тут не было і ў паміне".

Шмат год назад, калі "выйшла воля", з'явіўся тут учарашні прыгонны селянін Фадзей Цітовіч, якому дазволена было ўзяць замест надзелу зямлі лясныя выгаркі. Пабудаваў сабе хату і пачаў патроху калупацца сахою ў густа засеянай старымі карэннямі і пнямі зямлі.

– Праўду кажуць людзі, што балота без чорта не будзе, - кпіў ён з самога сябе. – Вады – хоць заліся, камення – хоць забіся! ¬

А потым дадаваў ужо больш аптымістычна: "Рабі пільна, то і дома будзе Вільня, а да таго ж хоць і галодны, але свабодны!"

Сам непісьменны, як след пакаштаваўшы прыгонну і паднявольнага жыцця, ён быў вельмі практычным чалавекам і хацеў сваім дзецям лепшай долі. Падзел паміж усімі кавалачка зямлі не быў выйсцем і не абяцаў нічога, акрамя жабрацкага жыцця. Таму бацька цвёрда вырашыў увесь надзел перадаць толькі старэйшым сынам, а двух астатніх, як бы там ні было, навучыць грамаце і прыладзіць да якой іншай справы.

Мікалай вывучыўся на ваеннага фельчара, а самы малодшы сын Іван стаў настаўнікам. Працуючы даволі далёка ад бацькавай хаты, у невялікім мястэчку Вішнёва, ён ажаніўся з сельскай настаўніцай, карыстаўся павагай навакольных сялян, шчыра імкнуўся як мага хутчэй і лепей навучыць грамаце іх дзяцей і толькі на канікулярны час прыязджаў разам з жонкай у Рэчкі. І выйшла якраз так, што менавіта тут у ліпені 1910 года нарадзіўся ў іх сын Генадзь. Дзед, які не вельмі ўжо верыў у Бога і любіў гаварыць, што ў царкве за ўсё жыццё быў толькі 2 разы – калі хрысціўся і калі жаніўся, - не спяшаўся ахрысціць унука. Але калі сын запрасіў у якасці хроснага свайго даўняга сябра, мясцовага настаўніка, і падрыхтаваў усё неабходнае, то кінуў усе справы і павёз унука ў царкву. Тутэйшы настаяцель некуды спяшаўся, таропка прарабіў абрад і, адклаўшы запіс у царкоўную кнігу, знік. Праз колькі дзён ён знайшоў паперку з імёнамі бацькоў, хросных і нованароджанага "раба Божага Генадзя", запісаў у кнігу, што нарадзіўся хлопец у Новым Пагосце ў жніўні.

Так здарылася, што, нарадзіўшыся ў адным месцы, хлопчык жыў у другім, "запісаны" быў у трэцім. Летам заўсёды жылі ў дзеда ў Рэчках, узімку – спачатку ў Вішнёве, а потым бацька пераведзены настаўнічаць у Дубатоўку, што каля Смаргоні.

Калі пачалася Першая сусветная вайна, бацьку забралі ў армію. Сям'я рушыла на ўсход. За гэты час Іван Цітовіч атрымаў прызначэнне ў Яраслаўль, сюды ж прыехала жонка з Генадзем і маленькім Алесем. А калі дачакаліся вызвалення родных мясцін ад ворага, зноў пераехалі да дзеда ў Рэчкі, бацька аказаўся на фронце. Пайшлі на фронт і дзядзькі, у хаце засталіся адны старыя ды малыя. Жылося нялёгка, за стол садзілася 18 чалавек, але дзед моцна трымаў усю сям'ю ў руках. Дзякуючы яго працавітасці, неяк выходзілі з цяжкага становішча.

У свеце наспявалі вялікія падзеі. Неўзабаве прыйшла звестка аб Лютаўскай рэвалюцыі 1917 года, а праз некалькі месяцаў пачуліся водгукі Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Петраградзе. Аднойчы ў хаце з'явіўся бацька, высокі, худы, у абшарпаным шынялі. На другі дзень ён узяўся за працу па гаспадарцы. Міру ўсё яшчэ не было на зямлі, Беларусь зноў апынулася пад пагрозай нямецкай акупацыі. Бацькі зноў не стала ў хаце. На змену немцам прыйшлі польскія салдаты. Яны забіралі коней, абяцалі ў хуткім часе завяваць усю Расію. Восенню 1920г. бацька вярнуўся ў Рэчкі. Ён з асалодай араў, сеяў, касіў, даглядаў жывёлу, заўсёды нешта майстраваў. Жыцць станавілася ўсё цяжэй, часам ужывалі ў ежу лебяду і маладую крапіву. Іван Цітовіч усё часцей успамінаў сваю працу ў школе, часта наведваўся да настаўнікаў з Новага Пагоста. Вяртаўся маўклівы, нечым незадаволены.

У першыя гады польскай акупацыі беларусы павінны былі змірыцца з паднявольным жыццём, забыць родную мову, звычаі, адмовіцца ад сваёй нацыянальнасці і штучна апалячыцца або супраціўляцца прымусовай паланізацыі, змагацца за нацыянальную свабоду і незалежнасць. Апынуўся перад выбарам і былы настаўнік Іван Цітовіч. Амаль адзіным правам, якое пакінула беларусам новая ўлада, была рэлігія. Таму і вырашыў Іван здаць іспыты за поўны курс семінарыі і стаць святаром.

Генадзю у той час споўнілася 13 год. У школу ні ён, ні брат не хадзілі, а займаліся ў бацькоў. Дзед гаварыў, што Генадзя трэба ў горад адпраўляць у гімназію ці яшчэ куды, каб які дыплом атрымаць ці прафесію набыць. Каб уладкаваць Генадзя ў горадзе, трэба было плаціць за навучанне, кватэру, даваць грошы на харчаванне, вопратку і іншыя выдаткі. Была яшчэ адна прычына, якая перашкаджала хлопцу паступіць вучыцца: Генадзь не ведаў польскай мовы. Адзінай навучальнай установай, якая сама ўтрымлівала сваіх выхаванцаў і не патрабавала ведання польскай мовы, была праваслаўная семінарыя. Таму вырашылі аддаць Генадзя туды. Восенню 1924года Генадзь разам з бацькам прыехаў у Вільню. Здаў экзамены за першыя два класы і стаў выхаванцам трэцяга класа Віленскай праваслаўнай духоўнай семінарыі.


Генадзь Цітовіч

У час вучобы ў семінарыі Генадзь пазнаёміўся з Рыгорам Раманавічам Шырмай. Р.Р.Шырма ў той час кіраваў Віленскім гімназічным хорам. Неўзабаве Генадзь стаў удзельнікам хору. Тады ён упершыню пачуў беларускую народную песню са сцэны.

Спачатку выкладанне ў семінарыі вялося на беларускай мове, затым усё было пераведзена на польскую мову. Беларуская і руская мовы засталіся толькі як прадметы. Шмат часу займала ў Генадзя падрыхтоўка да заняткаў, але ён рэгулярна наведваў і хор Р.Шырмы. Моцна пасябраваў Генадзь з многімі харыстамі. Яны часта збіраліся ў каго-небудзь на кватэры, запаміналі новыя песні, чыталі беларускія часопісы, абмяркоўвалі палітычныя падзеі.

Чым бліжэй надыходзілі выпускныя экзамены, тым часцей задумваўся Генадзь аб сваёй будучыні. Стаць святаром зусім не прыцягвала яго, ён хацеў аддаць сябе служэнню свайму народу. Больш за ўсё ён марыў аб кансерваторыі, але Генадзь чамусьці быў упэўнены, што не здасць экзамены і яго не прымуць. У семінарыі ён захапляўся прыродазнаўствам, і праз некаторы час стаў студэнтам прыродазнаўчага матэматычнага факультэта Віленскага ўніверсітэта. Там ён спяваў у розных харах, разам з сябрамі яны стварылі квартэт "Баян". Пры ўніверсітэце існаваў студэнцкі хор, і Генадзю прапанавалі кіраваць гэтым хорам. Неўзабаве хор павялічыўся да 80 чалавек, заспяваў значна лепш. Хор прымаў удзел у канцэртах студэнцкага клуба. Тут Генадзь пазнаёміўся з прафесарам кансерваторыі Тадэвушам Шэлігоўскім. Прафесар сказаў, што Генадзю трэба займацца не біялогіяй, а музыкай. У 1934 годзе Генадзь паступіў у кансерваторыю. У кансерваторыі яго палюбілі за вясёлы і непасрэдны характар, глыбокія музычныя веды, жаданне заўсёды прыйсці на дапамогу таварышам. Ён ні ад каго не таіў, што ён беларус, размаўляў на роднай мове, падтрымліваў сувязі са сваімі землякамі. Прафесар Шэлігоўскі лічыў, што заняткі этнаграфіяй будуць вельмі карыснымі для Генадзя. Па яго рэкамендацыі восенню 1936 года Генадзь Цітовіч, працягваючы займацца ў кансерваторыі, стаў студэнтам факультэта гуманітарных навук Віленскага ўніверсітэта.

Яшчэ ў дзяцінстве Генадзю хацелася захаваць у памяці ўсё, што спявала некалі бабка, і ён стаў наведвацца ў бліжэйшыя вёскі, а ў час летніх канікулаў зрабіў сапраўднае фальклорнае падарожжа на лодцы і плытах па Дзісне аж да яе ўпадзення ў Заходнюю Дзвіну.

У студэнцкім хоры спявала маладая студэнтка-медычка з прыемным звонкім голасам, іскрыстымі вачыма і сціплай усмешкай на пяшчотным твары. Неўзабаве маладыя людзі пазнаёміліся бліжэй, пасябравалі, а потым іх адносіны перайшлі ў нешта большае, чым сяброўства. Вольга была родам са Слонімскага павета. Яны заручыліся, але вырашылі адкласці вяселле, пакуль не ўладкуюцца з работай і кватэрай.

Генадзь Цітовіч не абмяжоўваўся збіраннем толькі беларускага фальклору. Яго вельмі цікавілі праблемы ўзаемнага ўзбагачэння музычных культур розных народаў. Вывучаючы балгарскія народныя песні, ён прыйшоў да высновы, што ў іх пабудове шмат агульнага з беларускай песняй. Не выклікала ніякага сумнення і ўзаемасувязь беларускіх народных песень з рускімі, украінскімі, польскімі, літоўскімі і латышскімі.

Урад Польшчы забараняў беларусам размаўляць і пісаць на роднай мове, прытрымлівацца бацькоўскіх звычаяў, спяваць свае песні. Пераходзячы з адной вёскі ў другую, Генадзь бачыў не толькі бяспраўе, галечу і голад, але і тыя гераічныя намаганні, якія рабіў беларускі народ для таго, каб абараніць свае правы, захаваць сваю мову і здабыткі нацыянальнай культуры.

У 1936 годзе Вольга скончыла ўніверсітэт, а ў 1937 годзе маладыя людзі згулялі вяселле. Генадзю Іванавічу да сканчэння кансерваторыі заставалася два гады. Генадзь застаўся ў Вільні, а Вольга Мацвееўна атрымала пасаду правізара ў Вышкаве – невялікім гарадку пад Варшавай.

У 1939годзе Г.Цітовіч скончыў кансерваторыю. Вольга рыхтавалася да пераезду ў Вільню, а Генадзь накіраваўся ў чарговую экспедыцыю. Яго цікавілі польска-ўкраінскія фальклорныя ўзаемасувязі. Аднак гэтае апошняе веласіпеднае падарожжа этнографа па Польшчы прыйшлося спыніць. Набліжалася Другая сусветная вайна. Каб не апынуцца пад фашысцкай акупацыяй, Цітовічы рушылі на ўсход. Яны апынуліся у Лужках, дзе ў той час жыў бацька Генадзя. Праз некалькі гадзін усе жыхары навакольных вёсак у святочным адзенні з хлебам-соллю ў руках сустракалі першыя воінскія часці Чырвонай Арміі. Уладкаваўшыся часова настаўнікам у Паставах, Цітовіч напісаў у Мінск пісьмо з прапановай выкарыстаць яго па спецыяльнасці. Хутка атрымаў прызначэнне на пасаду адказнага рэдактара музычнага вяшчання радыёстанцыі ў Баранавічах. Тут перад ім адкрываліся бязмежныя творчыя магчымасці для прымянення сваіх ведаў. Да таго часу ім было запісана і сістэматызавана каля 500 рускіх народных песень, 400 польскіх, 300 літоўскіх і звыш 1000 беларускіх, не лічачы шматлікіх запісаў народных песень іншых нацыянальнасцей, што жылі ў той час у Польшчы. Неўзабаве запісаныя песні загучалі не толькі ў Беларусі, але і на канцэртных пляцоўках Масквы і многіх іншых гарадоў Савецкага Саюза.


Выступае Нацыянальны акадэмічны народны хор імя Генадзя Цітовіча

*Заканчэнне будзе.*

